# Вескі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня ПАГОНЯ*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: ***www.baza-belarus.org, e-krama.com***
✉ ***viestki@mail.com***

**№ 1 (551)**
**Студзень 2012 г.**


**Былы Нью-Ёрскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня на агульным сходзе 10 сьнежня 2011 г. быў пераўтвораны ў асобную арганізацыю з назваю**

## Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне ПАГОНЯ

***(па-ангельску Belarusan American Alliance PAHONIA).***

Дзейнасьць грамадзкай арганізацыі й надалей будзе грунтавацца на прынцыпах Акту 25 Сакавіка 1918 году, падтрымкі беларускай мовы і культуры, дэмакратыі й паразуменьня між амэрыканскім і беларускім народамі.

**Радасных Калядаў і шчасьлівага Новага 2012 году!**

# Мае Каляды

Успамінаючы шчаслівыя моманты дзяцінства, безумоўна, узгадваю бабуліну вёску. Няважна, у які час: у сьпякоту, з тады, здавалася, жудаснымі аваднямі на каровах ці вужакамі пад кустамі чарніцаў, альбо пры вясновым разводзьдзі, з залітым павадкам склепам ці паветкаю, ці ўвосень, з пахам грыбоў і сушаных яблыкаў у пратопленай смалякамі хаце, ці напярэдадні Калядаў, з запацелымі шыбамі, з бабуляй, што завіхаецца ля прыпечка, зь яе, бы між іншым сказанымі, заўвагамі ня ляпаць дзьвярыма, бо цеста не падыдзе...

Сьвята Калядаў было сапраўднай містэрыяй з чаканьнем цудаў і з надыходам нейкага іншага новага прамежку часу, які чамусьці і я, і мой старэйшы брат, і бацькі ўспрымалі аднолькава – па-дзіцячаму пранікнёна і шчымліва, адчуваючы дарослымі і мудрымі толькі нашых бабулю і дзядулю. Адчувалася нейкая зусім немагчымая для тлумачэньня апека, напэўна, Божая...

І ўсе тады адчувалі сябе дзецьмі, абароненымі і схаванымі, нібы пад коўдраю, дзе цёпла і ўтульна.

Усё было ўцягнута ў кругаварот традыцыйных справаў і рытуалаў. Зранку здавалася, што нейкі невядомы дамавік, не кладучыся спаць, ужо расставіў шэрагі місак, збаночкаў ды рознага памеру чыгункоў на падлогу, печ, прыпечак, замясіў цеста, зварыў кісель, агледзеў падвор'е, разьмёў ад сьнегу сьцежкі... Бо па-іншаму немагчыма было патлумачыць шпаркасьць зробленай хатняй працы.

З самага ранку ўсё было прыгатавана да Куцьці.

Куцьця. Марозна. Хмурнавата.
Сьняжок падкідвае заўзята;
Сьнег на Куцьцю – грыбы на лета,
Такая матчына прыкмета,
А сьцежкі чорны – ягад многа;
Ну, і за гэта хвала Богу.

Менавіта Куцьця згадваецца мне, як непарушны ні пры якіх абставінах рытуал, таму што з году ў год яна пачыналася і закончвалася традыцыйна, але заўсёды непаўторна і чароўна. У хату запрашалі за стол "дзядоў" – блізкіх і далёкіх родзічаў-небажыцеляў, каб іх душы разам з жывымі сустрэлі Раство Хрыстова. Таксама клікалі на вячэру Мароз, каб задобрыць яго, папрасіць ня зьнішчаць сваім позьнім прыходам маладыя палеткі вясною. А часам нават пагражалі:

– Мароз, Мароз, хадзі куцьцю есьці,
Бо як прыйдзеш на ральлю,
То крукамі адцягну!

На Куцьцю ўспаміналі запаветныя прароцтвы і падзеі, зьвязаныя з нараджэньнем Збаўцы. Рэлігійныя і народныя звычаі гарманічна спляталіся ў сьвяткаваньні Раства. Да нашага часу дажыў вясёлы дасьціпны звычай калядаваньня, калі дзеці і моладзь ходзяць ад хаты да хаты з песьнямі і добрымі, часта жартоўнымі, пажаданьнямі.

А яшчэ на Каляды варажылі.

Па народнай традыцыі да Калядаў абавязкова адказна рыхтаваліся. Прыбіралі хату, убіралі яе саматробнымі ўпрыгожваньнямі, рабілі, калі быў патрэбны, ра-

***Працяг на бачыне 4***

# Сьнежаньскі сход былога Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА
## і стварэньне на ягонай аснове новай арганізацыі
## Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня ПАГОНЯ

Сьнежаньскі сход былога Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА адбыўся 10 сьнежня. Перад сходам ініцыятыўная група ў складзе ўправы былога аддзелу прыняла рашэньне зьмяніць назву арганізацыі на наступную Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне ПАГОНЯ і зарэгістраваць арганізацыю пад такою назваю. На пачатку сходу старшыня ініцыятыўнай групы, ён жа старшыня былога аддзелу, Віталь Зайка, паінфармаваў прысутных, што ў выніку склаўшыся абставінаў аддзел мяняе назву і будзе рэгістравацца як асобная арганізацыя. Было прапанавана ўсім, хто мае нейкія пытаньні або пярэчаньні выказаць іх, і аб'яўлена, што кожны сябар былога аддзелу, які хацеў бы застацца ў БАЗА, можа зрабіць гэта. Усе прысутныя сябры падтрымалі заяву ініцыятыўнай групы, пярэчаньняў не было.

Затым з паведамленьнем пра 120-годзьдзе з дня народзінаў славутага паэта Максіма Багдановіча выступіла сп-ня Валянціна Якімовіч. Яна прачытала некалькі вершаў самага любімага беларускага паэта. Сп. Віталь Зайка і сп-ня Валянціна Якімовіч засьпявалі на словы М. Багдановіча "Раманс" ("Зорка Вэнэра") і "Пагоню".

Перад прысутнымі выступіў Старшыня Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк. Ён узгадаў фігуру Максіма Багдановіча, як адну з ключавых у беларускай літаратуры, і сказаў:"Ёсьць у нас вялікая літаратура, ёсьць вялікія людзі, такія як Багдановіч. Не павінны ўпадаць у пэсімізм, бо былі цяжэйшыя часы, былі трагічныя 1930-я, можа не такія ганебныя як цяперашні час, калі цемра зьдзекуецца і плюе ў твар. Але сучаснасьць – гэта навука нам, якую мы мусім асэнсаваць і зрабіць высновы для далейшага руху наперад. Так зрабіла Эўропа у выпадку з фашызмам, асэнсавала тое, што адбылося і зрабіла высновы і ў сфэры палітыкі, і ў сфэры законнасьці й маралі. Нажаль, падобнае асэнсаваньне не адбылося з камунізмам. Тая здань дасюль блукае, і шмат у якіх краінах былыя камуністы кіруюць урадамі. Але навукай нашаму народу гэта зробіцца тады, калі зьнікне і адыйдзе ў нябыт сёнешні рэжым, калі стане яваю тое, што сёньня хаваецца і замоўчваецца."

Прамоўца спыніўся таксама на продажы расейцам Белтрансгазу, які ахарактэрызаваў як катастрафічную падзею, што ставіць пад пагрозу сувэрэнітэт Беларусі. Ён таксама акрэсьліў альтэрнатыўныя праекты забесьпячэньня Беларусі энэргіяй і спыніўся на іншых падзеях апошняга часу ў краіне, у тым ліку на судзе над мяркуемымі выканаўцамі тэракту 11 красавіка ў Менску. Быў закрануты таксама будучы лёс Лукашэнкі.

Затым у разьдзеле "Рознае" прагучэлі аб'явы пра маючыя адбыцца мітынг каля ААН і сьвяткаваньне Дня Слуцкіх Герояў у Гайлэнд-Парку, адбыліся знаёмствы з гасьцямі.

**Віталь ЗАЙКА**

# Сьвяткаваньне 91-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну

У Гайлэнд-Парку (Нью-Джэрзі) 4 сьнежня ўрачыста адзначылі Дзень Герояў, 91-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну. Напачатку імпрэзы перад прысутнымі выступіў старшыня аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзі Юрка Азарка. Ён павіншаваў прысутных з знамянальнаю датаю і даў кароткі агляд падзеяў, што адбыліся падчас падрыхтоўкі й правядзеньня Слуцкага Збройнага Чыну ў 1920 годзе.

Затым зь нетрадыцыйным рэфэратам пра Слуцкі Збройны Чын выступіў паэт і бард Сяржук Сокалаў-Воюш. Ён даў агляд збройных чыноў ад часоў Касьцюшкі, закрануў часы БНР і распавёў шырэй пра найноўшыя часы з гісторыі Беларусі, а таксама ўзгадаў пакараньне праваабаронцы Алеся Бяляцкага, які змагаецца "за нашу і вашу Бацькаўшчыну".



Сп-ня Валянціна Якімовіч выступіла з чытаньнем вершаў паэтак Натальлі Арсеньневай і Ларысы Геніюш, што прысьвячаліся слуцкім героям.

З словам пра значэньне Слуцкага Збройнага Чыну для сёнешняй моладзі выступіў сп. Дзяніс Талпека.

Сп. Віталь Зайка прывітаў прысутных ад імя Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА. Затым перад прысутнымі выступіў дырэктар Беларускага музэю Алесь Вінакураў, які адзначыў ролю мастакоў у беларускім адраджэньні.

Прысутныя зь цікавасьцю прагледзелі відэафільм пра Слуцкі Збройны Чын. Сп. Сяржук Сокалаў-Воюш выступіў з кароткай праграмай песьняў, прысьвечаных Случчакам: "Хто сказаў, што канец, што ні волі, ні шчасьця ня будзе...", "Нам у цемры начэй Беларусь незалежная сьніцца...", "Ніколі-ніколі ня будзе над намі Расея..." Потым вэтэраны-жанчыны ( *гл. здымак*) начале з сп-няй Н. Няпейн засьпявалі "У гушчарах, затканых імглою" і "Ідуць жаўнеры-беларусы".

У той жа дзень на могілках парафіі сьв. Маці Божае Жыровіцкае адбылося ўскладаньне вянкоў да помніка Беларускім Героям, які быў спраектаваны сьв. пам. Барысам Данілюком, сынам удзельніка Слуцкага Збройнага Чыну а. Хведара Данілюка. Прынагоднае слова сказаў сп. Ю Азарка.

**Віталь ЗАЙКА**

# Мітынг салідарнасьці з палітвязьнямі

Для штаб-кватэры ААН ў Нью-Ёрку 11 сьнежня адбыўся мітынг падтрымкі беларускіх палітзьняволеных. Супраць іх перасьледу дыктатурай Лукашэнкі, а таксама за адмену сьмяротнага пакараньня ў Беларусі ў гэты дзень выказаліся каля сотні беларусаў, якія зараз жывуць у розных рэгіёнах Амэрыкі. Сябры новай арганізацыі Беларускага-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня", Беларускага Маладзёвага Руху ды беларусы, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, сабраліся пад роднымі бел-чырвона-белымі колерамі нацыянальных сьцягоў, каб выказаць падтрымку тым мужным людзям, якія зараз адбываюць пакараньні за свае палітычныя погляды.

Арганізатары і ўдзельнікі акцыі таксама прыйшлі сказаць "Не!" рэжыму, які цынічна ігнаруе правы чалавека і калечыць лёсы людзей, якія сваёй жыцьцёвай пазыцыяй і грамадзкай дзейнасьцю дэманструюць адданасьць справе ды любоў да Бацькаўшчыны.

Таксама адною з мэтай акцыі была спроба яшчэ раз нагадаць сусьветнай супольнасьці пра парушэньне правоў чалавека ў Беларусі. Штодзень адбываюцца сотні "звычайных" ужо для беларусаў выпадкаў, на якія, па-просту, ужо нават не зьвяртаюць увагі: неабгрунтаваныя прысуды зь вялізнымі тэрмінамі пакараньня і жахлівымі ўмовамі іх адбываньня, засяленьне забруджаных Чарнобылем тэрыторыяў, прымусовае разьмеркаваньне, кантрактная сыстэма працы, прымусовая падпіска на дзяржаўныя газэты, прымусовыя ўдзелы ў агульнанацыянальных суботніках...

Падчас мітынгу выступілі зь прамовамі старшыня Беларускага Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" Віталь Зайка і сакратар Валянціна Якімовіч. Яны ўзгадалі пра ўжо стаўшыя гісторыяй падзеі амаль гадавой даўніны, калі мірная дэманстрацыя пратэсту ў Менску пасьля сфальсыфікаваных выбараў была жорстка разагнаная сілавымі структурамі, а сотні яе ўдзельнікаў пакараныя, у тым ліку і сем кандыдатаў у прэзыдэнты.

За гэты год шмат што зьмянілася ў краіне. Шмат хто ўжо пасьпеў і краіну жыхарства зьмяніць: ці не палова з сотні ўдзельнікаў мітынгу – беларусы, што прыехалі ў ЗША цягам апошніх сямі-васьмі месяцаў. Зьмяніўся стан беларускай эканомікі ды жыцьцёвы ўзровень яе жыхароў, зьмініліся адносіны Беларусі з краінамі-суседкамі, зьмяніўся настрой людзей, зьмянілася за гэты год і сама Беларусь. Але ўсё гэтак жа незаконная ўлада працягвае выносіць свае прысуды і кідаць за краты тых, каго лічыць сваімі палітычнымі ворагамі. Апошнім палітвязьнем, каму давялося пачуць такі прысуд, стаў старшыня праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі...

Напрыканцы мітынгу некалькі сказаў прысутным сказала Алена Дубавая: "Падтрымаць маральна людзей, якія выказваліся і змагаюцца за лепшую Беларусь – гэта сапраўды патрэбныя дзеяньні. У тых умовах, у якіх знаходзяцца палітвязьні, ім зараз вельмі істотна адчуваць падтрымку беларусаў".

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека мела толькі статус рэкамендацыі, тым ня менш 48 краінаў прынялі гэты дакумэнт яшчэ ў 1948-м годзе. Ён быў прызначаны ўпарадкаваць міжнарод-

***Заканчэньне на бачыне 4***




*Здымак даслала Ганна Нехнядовіч.*

Viestki551.qxd 1/3/2012 7:31 PM Page 1 (1,1)



# Мітынг салідарнасьці

Заканчэньне з бачыны 3

ныя зносіны ў пасляваенным грамадстве, а таксама арганізаваць працэс разьвіцьця кожнай краіны паасобку з унівэрсальнымі і ўсеагульнымі каштоўнасьцямі для кожнай краіны.

Чытаем артыкул 11 гэтага дакумэнта:

*“Кожны чалавек, які абвінавачваецца ў злачынстве, мае права лічыцца невінаватым да таго часу, пакуль яго вінаватасьць ня будзе ўстаноўлена законным парадкам шляхам публічнага судовага разбору, пры якім яму забясьпечваюцца ўсе магчымасьці для абароны.*

*Ніхто ня можа быць асуджаны за злачынства на падставе ўчыненьня якога-небудзь дзеяньня або за бязьдзеяньне, якія ў час іх учыненьня не былі злачынствам па нацыянальных законах або па міжнароднаму праву. Ня можа таксама накладацца пакараньне цяжэйшае чым тое, якое магло быць ужыта ў той час, калі злачынства было зроблена*”.

І адразу ж узгадваюцца імёны людзей, што сёньня знаходзяцца ў жахлівых умовах за кратамі: былыя кандадаты ў прэзыдэнты Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч, каардынатар “Эўрапейскай Беларусі” Зьміцер Бандарэнка, лідэр “Маладога Фронту” Зьміцер Дашкевіч, прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч, праваабаронца Алесь Бяляцкі і шмат іншых, для каго нацыянальнасьць беларус стала сапраўдным выпрабаваньнем і праверкаю на нязломнасьць і сапраўдную моц духу.

Таму вельмі хочацца верыць, што гэтая акцыя стане хаця б мінімальнай падтрымкай палітзьняволенным ды прыцягне ўвагу грамадзкасьці, што артыкулы дэкларацыі аб правах і свабодах стануць ня толькі тэорыяй у падручніках па гісторыі разьвіцьця права, але і відавочнымі каштоўнасьцямі на нашай Бацькаўшчыне.

**Вольга НАВАКОВІЧ**

# Мае Каляды

Заканчэньне з бачыны 1

монт гаспадарчых будынкаў. Да сьвята стараліся пашыць новае адзеньне, абавязкова памыцца ў лазьні. Новы год і новае сонца непрыгожа сустракаць, калі непарадак у гаспадарцы ці ў душы. У старыя часы замест звычайнай у нашыя часы навагодняй ялінкі асноўным упрыгожаньнем быў сноп збожжа, які ўносілі ў хату. Замест снапа магла быць і саламяная лялька, якая ўяўляла сабою нованароджаны год.

Каляды – сьвята вясёлае. Асаблівы сьвяточны настрой стварала, мабыць, і тое, што да пачатку працаў у полі – самы цяжкі час для нашых продкаў – было яшчэ далёка. Нават больш – на Каляды нельга было рабіць ніякай працы, а толькі весяліцца, каб падтрымаць сілы сьвятла сваім добрым гумарам.

Цяпер характэрны элемэнт сьвята – ялінка. Гэтая традыцыя зарадзілася ў германскіх народаў, у абраднасьці якіх ялінка заўжды была сымбалем жыцьця і пладародзьдзя. З распаўсюджаньнем хрысьціянства ўпрыгожаная рознакаляровымі цацкамі ялінка стала сымбалізаваць райскае дрэва зь незвычайнымі пладамі.

Розныя традыцыі і багатая гісторыя суправаджаюць сьвяткаваньне Калядаў. Але зразумела адно, гэта радаснае сьвята аднаўленьня, пачатка году, новых плянаў і надзеяў. Няхай жа калядная зорка зьзяе для кожнага, і адчуваньне цеплыні, гармоніі ды Божай апекі будзе з ўсімі намі!

Вясёлых Калядаў і добрага Новага году, шаноўныя!

**Вольга НАВАКОВІЧ**

## Уплаты ў арганізацыю

Складкі й ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| С. Бесараб | 50 |
| В. Блізьняцова | 50 |
| Д. Вядрэнка | 50 |
| Г. Дзімітрава-Скачко | 50 |
| П. Домніч | 50 |
| Д. Зінкевіч | 50 |
| Ю. Кручыніна | 50 |
| Ю. Лапіцкая | 50 |
| І. Мажэйка | 50 |
| К. Машоха | 50 |
| В. Наваковіч | 50 |
| Д. Платонаў | 50 |
| М. Пульманоўскі | 50 |
| А. Таболіна | 50 |
| М. Федасеева | 50 |
| Н. Худзіна | 50 |
| Я. Цішкевіч | 50 |
| А. Чумакоў | 50 |
| І. Яфрэмава | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**

## Наступны сход

Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” адбудзецца **ў суботу 14-га студзеня 2012 г.** на Мангэтане**.**

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля знаходзіцца на другім паверсе будынка.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку **www.baza-belarus.org***

## Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :

| | |
|---|---|
| С. Бесараб | 30 |
| В. Блізьняцова | 30 |
| Д. Вядрэнка | 30 |
| Г. Дзімітрава-Скачко | 30 |
| П. Домніч | 30 |
| Д. Зінкевіч | 30 |
| Ю. Кручыніна | 30 |
| Ю. Лапіцкая | 30 |
| І. Мажэйка | 30 |
| К. Машоха | 30 |
| В. Наваковіч | 30 |
| Д. Платонаў | 30 |
| М. Пульманоўскі | 30 |
| А. Таболіна | 30 |
| М. Федасеева | 30 |
| Н. Худзіна | 30 |
| Я. Цішкевіч | 30 |
| А. Чумакоў | 30 |
| І. Яфрэмава | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя**
*Valentina Balashchenko.*

*Паважаныя падпісчыкі **А. Грошаў, Д. Папок, Я. Шкаброва, С. Шырокі** паведаміце, калі ласка, рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***P. O. Box 572, New York, NY 10113***
*Чэкі з адзнакай **“Весткі”** выпісвайце на імя **Valentina Balashchenko**.*
*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт **www.e-krama.com***